# ВЕСЬНІК

Беларускага Каталіцкага Душпастырства

Но. 3(8) Лёндан Восень 1989

## НАШ БОЛЬ – НАШ ДОЎГ

Беларусь сінявокая – дзе ты?

Чатыры маленькія словы, а як шмат яны гавораць! Тут і любоў і боль, і трывога за будучыню сваёй краіны. Яны былі напісаныя на плякаце падчас адной дэманстрацыі ў Беларусі летам гэтага году.

На долю беларусаў выпала шмат цяжкіх выпрабаваньняў. Колькі разоў, здавалася, яны стаялі на краі загубы. Тое, што, нягледзячы на ўсё, яны выжылі, сведчыць аб вялікай духоўнай сіле нашага народу.

Крыніцу гэтай сілы напэўна трэба шукаць у глыбокіх карэньнях, якімі беларусы зьвязаныя са сваёй роднай зямлёй, аб якой так хораша напісаў Якуб Колас:

Зямля ня зьменіць і ня здрадзіць
Зямля паможа і дарадзіць,
Зямля дасьць волі, дасьць і сілы,
Зямля паслужыць да магілы,
Зямля дзяцей тваіх ня кіне,
Зямля – аснова ўсёй айчыне.

Што б сказаў паэта, калі б ён жыў сёньня?...

Зямля ня здрадзіла. З ёй сталася няшчасьце: яе зьнявечылі. Імя гэтага няшчасьця – Чарнобыль.

Выбух Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі на суседняй Украіне 26 красавіка 1986 году лёг злавесным ценем на Беларусь. Сёньня, больш як тры гады пасьля выпадку, адна пятая частка ворнай зямлі Беларусі, "забруджаная" радыяцыяй. Нягледзячы на ўсе стараньні, зона радыяцыі ўсьцяж пашыраецца. Найбольш пацярпелі Гомельская, Магілёўская і Берасьцейская вобласьці, з некаторых частак якіх, як непрыдатных да жыцьця, прыйшлося выселіць дзесяткі тысяч людзей (паводле ангельскага часапіса New Scientist выселена да гэтага часу 92 тысячы). Гэтыя меры аказаліся недастатковымі і ўлады плянуюць

у найбліжэйшым часе высяліць яшчэ амаль 120 тысяч людзей з 526 населеных пунктаў. Наогул больш за 500 тысяч людзей, жывуць на землях ахопленых радыяцыяй. У зараханых радыяцыяй мясцо-асьцях немагчыма весьці гаспадарчую дзейнасьць і насельніцтва змушана карыстацца прывазнымі прадуктамі. Вялікую трывогу выклікае стан здароўя жыхараў гэтых мясцовасьцяў. Ужо цяпер назіраецца рост ракавых захвораньняў (леўкемія, павялічаньне шчытавых залозаў) і паніжэньне адпорнасьці на "звычайныя" хваробы. Асабліва загрожаныя дзеці, арганізмы якіх менш адпорныя на радыяцыю. Аднак сёньня яшчэ немагчыма ўстанавіць поўны разьмер захвораньняў і генетычных зьменаў выкліканых радыяцыяй: яны выявяцца толькі на працягу наступных гадоў, а то і дзесяці-годзьдзяў.

Няшчасьцяў хапае на сьвеце. Амаль кожны дзень прэса, радыё і тэлебачаньне прыносяць нам весткі аб землятрусах, паводках, пажарах, аварыях і т. д. Было б несправядліва рабіць параўнаньні, якое з іх большае: усе яны зьяўляюцца вялікай трагедыяй для тых, хто перажыў іх. У большасьці выпадкаў, аднак, час трываньня розных няшчасьцяў – прыродных і спрычненых чалавекам, – абмежаваны, што дае магчымасьць устанавіць велічыню стратаў і шкодаў, каб прыйсьці з канкрэтнай дапамогай тым, што пацярпелі. У выпадку Чарнобыльскай аварыі мы блукаем упоцемку і губімся ў дапушчэньнях, ня ведаючы ні поўнага яе размеру, ні часу трываньня вынікаў, ні канчатковай колькасьці ахвяраў.

Чарнобыльская аварыя зьяўляецца для беларусаў нацыянальнай трагэдыяй, якая, калі не прымуцца безадкладна меры, будзе толькі павялічвацца. Перадусім неабходна пачаць працу над ачышчэньнем і аздараўленьнем забруджаных радыяцыяй земляў, зрабіць іх зноў прыдатнымі да жыцьця. Сёньня немагчыма сказаць, колькі часу гэта зойме і якія патрэбныя на гэта кошты.

Другое, больш блізкае і непасрэднае заданьне, якое не чакае адкладу – гэта лекарская дапамога ўсім, хто адчуў на сабе вынікі радыяцыі. Трэба, дзе магчыма, ратаваць здароўе і несьці аблягчэньне ў выпадках (хочацца спадзявацца, нешматлікіх) невылечальных захвораньняў. Дзеці і цяжарныя жанчыны павінны стацца прадметам асаблівай увагі і клопату. На жаль, гэтае заданьне, як і папярэдняе, непасільнае для саміх беларусаў без дапамогі звонку. З вестак у прэсе вядома, што ў зоне радыяцыі адчуваецца недахоп найбольш неабходных лякарстваў і лекарскіх прыладаў. Не хапае нават сродкаў для ўтрыманьня асабістай чысьціні (мыла, парашкі да мыцьця вопраткі), хоць вядома, што частае мыцьцё памагае зьменшыць шкодныя вынікі радыяцыі.

У такім цяжкім становішчы прыходзіцца зьвярнуцца да нашых прыяцеляў і да людзей добрай волі на ўсім сьвеце з просьбаю памагчы беларускаму народу у ягонай вялікай бядзе.

Калі ж ідзе пра беларусаў, якія жывуць за межамі Бацькаўшчыны, дык дапамога ахвярам Чарнобыльскай аварыі зьяўляецца іхнім маральным абавязкам, іхнім нацыянальным даўгом. Ніхто з іх ня мае права аставацца абыякавым на няшчасьце, якое спаткала беларускі народ.

Каб аблягчыць хоць крыху цяжкае становішча, якое вытварылася ў Беларусі ў выніку Чарнобыльскай аварыі, у Лёндане паўстаў **Беларускі Камітэт Дапамогі Ахвярам Радыяцыі** (Byelorussian Radiation Relief Appeal). У меру магчымасьці Камітэт будзе старацца несьці дапамогу жыхарам радыяцыйнай зоны ў выглядзе неабходных лякарстваў, лекарскіх прыладаў, прыладаў для вымярэньня вышыні радыяцыі (дазімэтры) і т.д. Наколькі карысная будзе дзейнасьць Камітэту, залежыць ад падтрымкі, якую ён атрымае з боку беларусаў і іхніх прыяцеляў на ўсім сьвеце.

Звычайна людзі пад непасрэдным уражаньнем якога-небудзь няшчасьця – асабліва калі яны былі яго навочнымі сьведкамі, – здольныя на вялікія ўчынкі бескарысьлівай дабрадзейнасьці. З часам аднак памяць аб няшчасным выпадку слабее, або і зусім зьнікае. Толькі ахвяры астаюцца адны са сваім болем, са сваімі ўспамінамі і праблемамі. **Мы ня маем права забыцца аб ахвярах Чарнобыля:** мы павінны на справе паказаць, што яны і іхні лёс блізкія нашаму сэрцу.

На вышэй успомненай дэманстрацыі быў таксама іншы плякат з надпісам: "Зьберажом Беларускую Нацыю". Гэтае жыцьцярадаснае сьцьвярджаньне веры ў лепшую будучыню свайго народу павінна стацца крыніцай натхненьня для нас усіх. Супольнымі сіламі зробім усё, каб зноў зазьзяла лагоднай шчасьлівай усьмешкай сінявокая Беларусь, і каб яе сыны і дочкі маглі сказаць разам з псальмістам:

> **Зямля дала плод свой**
> **Бог, наш Бог, паблаславіў нас.**
> **(Пс. 66(67):7)**

а. Аляксандар Надсон,
Апостальскі Візытатар для Беларусаў

Лёндан, 12 лістапада 1989 г.

**Byelorussian Mission Trust**
**Charity No. 295752**

## БЕЛАРУСКІ КАМІТЭТ ДАПАМОГІ АХВЯРАМ РАДЫЯЦЫІ
## BYELORUSSIAN RADIATION RELIEF APPEAL
**Marian House, Holden Avenue, London N12 8HY**

**Tel.: (01) 445 5358**

Ахвяры можна слаць непасрэдна ў Лёндан на вышэй пададны адрас, або праз прадстаўнікоў у краінах, дзе яны ёсьць.

Высылаючы ахвяры ў Лёндан, чэкі і грашовыя пераказы просім выстаўляць на

**Byelorussian Mission Trust (Radiation Relief).**

**Камітэт:**

Павал Асіповіч, Скарбнік Беларускага Дапамаговага Фонду
Джэймс Дынглей, Старшыня Англа-Беларускага Таварыства (Сакратар)
Янка Міхалюк, Старшыня Згуртаваньня беларусаў у Вялікай Брытаніі
а. Аляксандар Надсон, Апостальскі Візытатар для Беларусаў (Старшыня)
Вера Рыч, навуковая журналістка.

**Прадстаўніцтвы ў іншых краінах**

**ЗША**

а Язэп Сіру, настаяцель Царквы Хрыста Спаса ў Чыкага.
Адрас: Rev. Joseph Cirou, Christ the Redeemer Church, 3107 W. Fullerton Avenue, Chicago, IL 60647. Tel. (312) 342.7373

**Канада**

Др. Раіса Жук-Грышкевіч
Адрас: Dr. Raisa Zuk-Hryskievic, 54 Mary Street, Barrie, Ont. L4N 1T1.
Tel.: (705) 728.7581

**Аўстралія**

Міхась Лужынскі
Адрас: Mr Michael Luzhynski, 22 Virginia Street, Guildford West, NSW 2161
Tel.: (02) 681.1446

**Францыя**

Міхась Навумовіч
Адрас: Mr Michel Naumovic, 22 Avenue Jean-Jaurès, 93420 Villepinte.
Tel.: (1) 48.61.30.71

# НОВЫ БІСКУП : НАДЗЕІ І ТРЫВОГІ

"Вось мае пажаданьні табе, браце Тадэвуш: з якой надзеяй уся Царква ўзіраецца на тваю беларускую зямлю, дзе пасьля больш як шасьцідзесяцігадовага перарыву вяртаецца ў Менск біскуп, каб служыць народу гэтай краіны! Ці ж гэта ня знак перамены на лепшае для ўсіх верных? Падчас доўгіх гадоў выпрабаваньняў Біскуп Рымскі быў заўсёды блізкі да католікаў Беларусі. Сёньня, ускладаючы рукі на цябе, Ён хоча падкрэсьліць сувязь Пасаду Пятра з Царквой у Беларусі і падзяліць з каталікамі гэтай краіны – якая ў тваёй асобе атрымлівае новага Пастыра, – ня толькі іхнюю радасьць, але і супольную надзею бачыць незадоўга адноўленай каталіцкую ерархію ў гэтых старажытных дыяцэзыях, Папе асабліва дарагіх".

Гэтымі словамі на італьянскай мове Сьвяты Айцец зьвярнуўся да наваназначанага Біскупа Тадэвуша Кандрусевіча падчас біскупскай кансэкрацыі ў базыліцы Сьвятога Пятра ў Рыме ў пятніцу 20 кастрычніка г.г. Пасьля ён прадаўжаў па-беларуску:

"Вялікаю зьяўляецца таксама мая радасьць магчы надзяліць поўняю сьвятарства дарагога мансіньёра Тадэвуша Кандрусевіча, якога я назначыў Апостальскім Адмінстратарам Мінскай Дыяцэзыі для каталікоў усёй Беларусі. Жадаю яму з бацькаўскай любоўю поспехаў у вядзеньні душпастырскай працы на гэтай прасторнай тэрыторыі ды, у той самы час, упрошваю Божага блаславенства яму і ўсім вернікам, давераным яго душпастырскай апецы".

Цяжка апісаць пачуцьці беларусаў (на жаль вельмі нешматлікіх), якія мелі нагоду быць прысутнымі на гэтай гістарычнай падзеі. Бо інакш, як гістарычнай, нельга яе назваць: першы раз у гісторыі Царквы найвышэйшы яе Пастыр ня толькі ўласнаручна надзяліў поўняю сьвятарскай ласкі біскупа для беларусаў, але зьвярнуўся да яго на мове народу, сярод якога яму трэба працаваць. Большага прызнаньня беларусаў і іхняга месца ў Царкве нельга чакаць.

Прамовіўшы па-беларуску, Сьвяты Айцец ушанаваў увесь Беларускі Народ. Ён таксама даў пазнаць недвузначна, чаго ён чакае ад новага біскупа і якім ён хоча бачыць характар дзейнасьці Каталіцкай Царквы ў Беларусі.

Беларусы каталікі маюць права чакаць ад новага біскупа нечага не меншага, чым ад Сьвятога Айца. Дый трэба сказаць, што многія ўскладаюць на яго вялікія надзеі. Вось што піша адзін малады студэнт : "Беларуская мова ў Беларусі ўсё больш чутная ўсюды, акрамя Каталіцкай Царквы. Але магчыма пры новым біскупе справы зьменяцца на лепшае". Ці апраўдаюцца гэтыя надзеі?

У панядзелак 30 кастрычніка Біскуп Тадэуш Кандрусевіч заняў свой біскупскі пасад у сталіцы Беларусі Менску. Пакольkі гэта быў працоўны дзень, многія вернікі ня мелі змогі прысутнічаць на ўрачыстасьці. Да гэтага беларускае грамадзтва сталіцы было пад ураканьнем велічнага сьвяткаваньня днём раней Дзядоў, якое закончыліся пасьвячэньнем у Курапатах Крыжа на памяць ахвяраў сталінскага тэрору. З усяго выглядае, што арганізатарам не залежала на тым, каб на ўрачыстасьці было прысутных шмат беларусаў. Чуткі, быццам Біскупа віталі польскія дзеці, а беларускіх не дапусьцілі, настолькі несамавітыя, што проста ня хочацца верыць. Як тады быць са словамі Збавіцеля "Пазвольце дзеткам прыхадзіць да Мяне і не перашкаджайце ім, бо да такіх належыць валадарства Божае" (Лк 18:16)?

Безумоўна, сам Біскуп ня быў адказны за арганізацыйную частку і мог аб усім гэтым ня ведаць. Між іншым ягоная кароткая прамова на беларускай мове, побач з польскай і расейскай, была адным з нешматлікіх "беларускіх эпізодаў" урачыстасьці (Імша і казань падчас яе былі на польскай мове). Наогул аднак уражаньні з першага афіцыяльнага акту новага Біскупа даволі супярэчлівыя.

Апошнім часам на старонках беларускіх газэт і часопісаў даволі часта пачалі паяўляюцца весткі з царкоўнага жыцьця. Не адзін раз ўспаміналіся там і прозьвішчы беларускіх каталіцкіх сьвятароў Уладзіслава Чарняўскага і Яна Матусевіча. Затое пра Біскупа Кандрусевіча да гэтага часу там пануе поўнае маўчаньне. У мінулым годзе ў беларускай прэсе не было таксама ўспаміну пра паездку ў Беларусь кардынала Глемпа. Дый гэта зразумела, бо беларусы адчулі, што гэтая падзея ня мела зь імі нічога супольнага. Ці ж назначэньне Біскупа Кандрусевіча расцэньваецца імі ў падобны спосаб?... Хоць можа гаварыць пра "поўнае маўчаньне" не зусім праўдзіва. У газэце "Літаратура і мастацтва" ад 27 кастрычніка пад тытулам "Беларусаў не спыталі..." быў надрукаваны ліст вядомага змагара за беларускую мову ў Каталіцкай Царкве, кс. Уладзіслава Чарняўскага, у якім той між іншым піша: "Беларусы дасюль ня маюць голасу ані ў касьцеле, ані ў царкве. Вось і цяпер, калі вырашалі, каго прызначыць біскупам на Беларусь, беларусаў не спыталі".

Нейкі жартаўнік параўнаў "перабудову" ў Савецкім Саюзе да тайгі: угары шум, а ўнізе цішыня... Тут ня месца судзіць, наколькі трапнае гэтае параўнаньне. Але часам маецца ўражаньне, што беларусы ў падобны спосаб заглядаюцца на Каталіцкую Царкву: "угары" шумяць, Папа гаворыць па-беларуску, у Ватыканскім радыё ідуць беларускамоўныя перадачы, Рым зацьвердзіў беларускі тэкст Імшы і выдаў беларускі катэхізм; а "ўнізе" ўсё ідзе старым парадкам.

Беларусы сёньня зразумелі, што ім дадзеная магчыма апошняя шанца, каб ўратаваць свой народ ад загубы. Гэтым можна вытлумачыць нацыянальны ўздым сярод усіх пластоў беларускага грамадзтва. Не абмінуў ён і царкоўнага жыцьця. У "Настаўніцкай газэце" быў надрукаваны нядаўна цікавы артыкул аб адчыненай у гэтым годзе праваслаўнай духоўнай сэмінарыі ў Жыровіцах, дзе на дамаганьне студэнтаў была створаная кляса, у якой навучаньне ўсіх прадметаў вядзецца на беларускай мове. Прыходзіцца толькі цешыцца за нашых праваслаўных братоў.

А як справа стаіць у каталікоў? Адзін малады каталіцкі студэнт памагаў летам свайму мясцоваму сьвятару навучаць дзетак закону Божаму. І хоць сьвятар дазволіў студэнту выясьняць катэхізм па-беларуску (дзеці польскай мовы не разумелі), але малітвы загадаў вучыць па-польску... Вось тут і тая самая "тайга".

Вялікі беларускі сьвятар і паэта Казімер Сваяк (Кастусь Стэповіч, 1890-1926), так апісвае стан парафіянаў у Засьвірскай парафіі, дзе ён быў пробашчам праз апошніх шэсьць гадоў свайго жыцьця: "Русьняк тут голы і галодны. Проста жаль глядзець. Цёмны як халява, а не даецца кіраваць: не давярае. Ахвоты і добрай волі ёсьць між людцоў. Толькі што шмат чуў ён баламуцтва палітычнага і зьняверыўся. Зрэшты, трэба яго найперш накарміць"(падкр. маё - А.Н.). (Дзея мае мысьлі, сэрца і волі. Вільня 1932, стар.62). Вось голас сапраўднага пастыра: тут чуецца спагада і клопат аб суцэльным чалавеку, якому, перш чым узяцца за аздараўленьне душы, трэба вярнуць людзкую годнасьць, стварыўшы належныя жыцьцёвыя ўмовы.

Беларусам прыйшлося бачыць на працягу гісторыі нямала "баламутаў", якія толькі ўносілі заклот і калечылі іхнія душы. Дык ня дзіва, што сёньня яны чуюцца разгубленымі, ня ведаючы як успрыняць апошнія падзеі ў жыцьці Каталіцкай Царквы ў Беларусі. Бо трэба сказаць ясна, што яны чакалі нечага іншага, калі прасілі Папу даць ім свайго біскупа. Наўрад ці знойдзецца сярод іх нехта, хто б не прызнаў слушнымі вышэй прыведзеныя словы а. Чарняўскага. Між іншым гэты добры і сьціплы чалавек сваёй самаахвярнай працай на Божай ніве сярод свайго народу заслужыў сабе агульную любоў і ўдзячнасьць. Прыкрасьці і цяжкасьці, якія яму прыйшлося цярпець ад іншых сьвятароў, і рэгулярныя нападкі на яго ў польскай прэсе з закідамі "нацыяналізму" і "моўнага шавінізму" толькі ўзмацняюць павагу да яго з боку беларусаў, якія памятаюць яшчэ зусім нядаўнія часы, калі кожнага, хто публічна загаварыў па-беларуску абзывалі "нацыяналістам". Цяпер ужо стала лягчэй: гэта робяць толькі польскія ксяндзы...

Беларусы чакаюць пастыра, які быў бы "адным зь іх", каб магчы дзяліць зімі і боль Курапатаў, і жах Чарнобыля, і гордасьць за народ, які даў сьвету Скарыну. Перадусім аднак, каб ён шанаваў іхнюю людзкую і нацыянальную годнасьць. Безумоўна, першым абавязкам біскупа ёсьць пашырэньне валадарства Божага сярод людзей. Але ж нельга забываць, што найбліжэйшая дарога да душы чалавека вядзе праз сэрца.

Ці зможа Біскуп Кандрусевіч здабыць сэрцы беларусаў, нягледзячы на тое, што іхнія надзеі бачыць беларуса на біскупскім пасадзе асталіся нязьдзейсьненымі? Трэба спадзявацца, што так, бо ўжо найвышэйшы час пачаць, калі можна зрабіць парафразу малітвы Сьвятога Францішка, "сеяць любоў дзе ёсьць нянавісьць, прабачэньне, дзе крыўда; веру, дзе існуе сумніў, а дзе зьняверaньне – надзею; несьці сьвятло, дзе пануе цемра, а дзе сум – радасьць". Але ўсё залежыць перадусім ад яго самога. Тое, што ён не зьяўляецца беларусам, можа ствараць дадатковыя цяжкасьці, але не павінна стацца непераадольнай перашкодай: у канцы канцоў апосталы славянаў, сьвятыя браты Кірыла і Мятод, не былі славянамі. З свайго боку Біскуп Кандрусевіч мае права чакаць падтрымкі і малітваў ад усіх верных Беларусі. У выпадку беларусаў ён можа не сумнявацца, бо паводле вестак, нягледзячы на расчараваньне, у іх ёсьць вялікі запас добрай волі. Аднак "вялікі" не азначае "невычэрпны". Было б трагічна, калі б на месца добрай волі прыйшло зьняверaньне.

Апошняя заўвага. Калі пра назначэньне Біскупа Тадэвуша пісалася шмат ў заходняй прэсе, то пра ягонае пасьвячэньне, апрача ватыканскага Osservatore Romano, не было амаль нічога. Адзіным выняткам быў уплывовы ангельскі каталіцкі тыднёвік The Tablet які ў сваім нумары ад 4 лістапада замясьціў кароткую зацемку пад назвай "Беларусь атрымала свайго Біскупа" (Byelorussia receives its Bishop), дзе гаворыцца ня толькі пра пасьвячаньне, але і пра ўваход новага біскупа у Гародню (28 кастрычніка) і Менск. Прывёўшы ў скароце прамову Папы, зацемка канчаецца наступным чынам: "Яшчэ ўсё прыходзіцца чакаць, калі новы Біскуп, які да гэтага часу працаваў у польскамоўнай парафіі, адслужыць першую Імшу па-беларуску".

Што ж, беларусы – народ цярплівы: могуць пачакаць...

а. Аляксандар Надсон

# ВЕСТКІ З РЭЛІГІЙНАГА ЖЫЦЬЦЯ

## Сьвячаньне Біскупа Тадэвуша Кандрусевіча

У пятніцу 20 кастрычніка Сьвяты Айцец Ян Павал II у базыліцы Сьвятога Пятра ў Рыме высьвяціў чатырох новых біскупаў, сярод іх Біскупа Тадэвуша Кандрусевіча, Апостальскага Адмінстратара Менскага. Тры іншыя новыя біскупы – два палякі і адзін лібанец, – былі назначаныя на дыпляматычныя становішчы. Сьвяты Айцец у сваёй прамове вітаў асобна кожнага з новапасьвячаных. Да Біскупа Кандрусевіча ён зьвярнуўся на беларускай мове (гл. вышэй, стар.5). Гэтым ён напэўна хацеў даць пазнаць, якой ён хадае бачыць Каталіцкую Царкву ў Беларусі, і падчыркнуць неабходнасьць душпастырскай дзейнасьці на роднай мове сярод яе карэннага насельніцтва, найбольш занядбанага рэлігійна. Магчыма ён таксама хацеў зьменшыць прыкрае ўражаньне сярод беларусаў, выкліканае назначэньнем не-беларуса на Менскі біскупскі пасад.

Абрад біскупскіх сьвячаньняў і прамова Папы былі перадаваныя "жыва" беларускай праграмай Ватыканскага радыё.

## Спатканьне Біскупа Кандрусевіча ў Гародні.

У суботу 28 кастрычніка адбылася спатканьне Біскупа Кандрусевіча ў Гародні. Паводле атрыманых вестак, прадстаўніком беларусаў не знайшлося месца ў царкве, і яны стаялі вонках на пляцы, трымаючы плякаты з напісамі "Вітаем Каталіцкага Біскупа Беларусі" і "Божа, блаславі Беларусь". Нават не маглі яны даць біскупу букет бел-чырвона-белых ружаў, а былі змушаныя перадаць яго праз сьвятара. Далей карэспандэнт піша: "Набажэнства ішло на польскай мове. Віншавалі Біскупа польскія радзіны Гродзеншчыны. Ён абнесены імі, як трайным ланцугом міліцыі была ачэплена ў Менску сесія Вярхоўнага Савету. Прамаўленьне на мове роднай (г.зн. беларускай), рускай і літоўскай пасьля доўгага на польскай... Была надзея, што ў Менску на яго будуць рабіць уплыў... Але ж ён пакуль што будзе жыць у Гародні. А тут польскі бастыён на страхы".

Гародня ад Рыму даволі далёка: відаць там і не дачулі прамовы Папы на беларускай мове...

Нягледзячы на ўсё, беларусы ня трацяць надзеі. Вось што піша адзін карэспандэнт з Менску: "Новы наш біскуп, кажуць, падчас урачыстага Ўваходу ў Гародне і Менску азваўся параю словаў і па-бела-

руску, дык мо й ня ўсё гэтак блага? Аднак разам з тым апавядаюць не надта суцяшальныя гісторыі з часоў ягонага сьвятарства ў Гародне... Як складуцца ягоныя дачыненьні з беларускімі каталіцкімі сьвятарамі? А іх ужо некалькі, і з часам, пэўна, будзе болей".

## Беларускае паломніцтва.

У суботу 24 чэрвеня адбылося першае паломніцтва да сьвятыні Амэрыканскіх Пакутнікаў (мучанікаў) у Мідлянд у Канадзе. У мінулым годзе стараньнямі беларусаў Канады і ЗША там быў пастаўлены Крыж на памяць Тысячагодзьдзя хросту Беларусі. У паломніцтве ўзялі ўдзел беларусы і іхнія прыяцелі з Канады і Злучаных Штатаў Амэрыкі. З Англіі прыехаў Апостальскі Візытатар для Беларусаў, а. Аляксандар Надсон. Быў таксама а. Язэп Сіру, настаяцель беларускай царквы Хрыста Спаса ў Чыкага. На казані падчас Багаслужбы а. Аляксандар гаварыў аб паломніцтве, як вобразе хрысьціянскага жыцьця, якое ў сутнасьці зьяўляецца адным суцэльным паломніцтвам, апошняй мэтай якога ёсьць Бог. Удзельнікі маліліся таксама за супакой душы памёршага ў лютым г.г. Вінцэнта Жука-Грышкевіча, які быў адным з ініцыятараў пастаўленьня памятнага Крыжа. Пасьля Багаслужбы ўсе пайшлі працэсіяй да Крыжа, сьпяваючы акафіст у гонар сьв. Еўфрасіньні Полацкай на ангельскай мове (ў перакладзе а. Сіру і сп. Янкі Нагродзкага). Перад самым Крыжам была адслужаная на беларускай мове частка акафісту Сьвятому Крыжу з Малой Падарожнай Кніжкі Францішка Скарыны.

Сьвяткаваньне закончылася супольным абедам. Вялікае прызнаньне належыцца сп.ні Раісе Жук-Грышкевіч, якая была душою арганізацыі паломніцтва. Было б прыгожа, каб гадавое паломніцтва да памятнага Крыжа ў Мідлянд сталася традыцыйнай падзеяй у жыцьці беларусаў Паўночнай Амэрыкі.

## Айцец Язэп Сіру - прэзыдэнт Таварыства ўсходніх сьвятароў

Айцец Язэп Сіру, настаяцель беларускай парафіі Хрыста Спаса ў Чыкага, быў выбраны прэзыдэнтам Асацыяцыі каталіцкіх сьвятароў усходніх абрадаў у гэтым горадзе.

У Чыкага ёсьць вельмі шмат каталікоў усходняга абраду. Найбольшую групу складаюць украінцы, якія маюць сваю епархію. Ёсьць таксама румыны, карпатарусы, лібанцы і сырыйцы (мэльхіцкага і мараніцкага абрадаў), халдэйцы і шмат іншых.

Беларусы каталікі маюць у Чыкага сваю царкву і парафію Хрыста Спаса, якая зьбіраецца ў наступным годзе сьвяткаваць трыццаць гадоў свайго існаваньня. Высьвячаў царкву ў 1960 г. сьв. пам. Біскуп Чэслаў Сіповіч, а першым яе настаяцелем быў а. (пасьля Біскуп) Уладзімер Тарасэвіч.

Парафія Хрыста Спаса была заўсёды ведамай з свёй экумэнічнай дзейнасьці і інтэнсыўнага літургічнага жыцьця. Між іншым яна была адной з першых цэркваў, дзе была ўведзеная беларуская мова ў багаслужэньнях. Пасьля сьмерці Біскупа Тарасевіча ў пачатку 1986 году для парафіі наступіў цяжкі перыяд. Аднак хутка цяжкасьці былі пераадоленыя, і цяпер, пад умелым кіраўніцтвам а. Язэпа, яна разьвіваецца вельмі памысна. У сілу абставінаў, парафія сёньня зьяўляецца беларуска-амэрыканскай з багаслужэньнямі на дзьвюх мовах. Тым ня менш а. Язэп Сіру, хоць сам і не беларус, стараецца захаваць яе беларускі характар.

Адным з закладчыкаў Асацыяцыі каталіцкіх сьвятароў усходніх абрадаў быў сьв. пам. а. Тарасэвіч, які быў яе першым прэзыдэнтам. Такім чынам а. Язэп Сіру прадаўжае традыцыю царквы Хрыста Спаса. Віншуем яго з новым становішчам і жадаем посьпехаў.

## НОВЫЯ ВЫДАНЬНІ

**Кароткі Катэхізм Хрысьціянскай Навукі.** Рым 1988, 61 стар.

Хоць дата выданьня азначаная 1988 годам, аднак кніга сталася даступнаю толькі вясною гэтага году. Сваім зьместам яна зьяўляецца выясьненьнем галоўных праўдаў хрысьціянскай веры у традыцыйнай форме пытаньняў і адказаў, пачынаючы ад пытаньня: "Хто стварыў цябе?", і адказу на яго: "Мяне стварыў Бог" (стар.7). Кніга складаецца з наступных разьдзелаў: "Уступныя весткі", "Вера" (выясьненьне складу Апостальскага), "Надзея"(аб малітве), "Любоў" (Божыя і царкоўныя прыказаньні), "Ласка Божая і сакраманты", "Дабрадзейнасьці і заганы".

Кніжка разьлічаная перадусім на беларусаў каталікоў рымскага абраду (якіх у Беларусі большасьць) і таму ўкладальнік стараўся ўжываць знаёмую ім тэрміналёгію, падаючы ў дужках алтэрнатыўныя тэрміны, напр. Касьцёл (Царква), сакрамант (тайна) і т. д. Адсутнасьць адзінай прынятай тэрміналёгіі зьяўляецца адной з вялікіх цяжкасьцяў для ўсіх аўтараў беларускамоўных рэлігійных працаў. Было б пажадана, каб беларусы каталікі і праваслаўныя прыйшлі да нейкай згоды ў гэтым пытаньні.

Катэхізм, напісаны простай і зразумелай моваю, будзе карысным для тых, хто хоча пазнаёміцца з асновамі каталіцкай веры. Надрукаваны ён на добрай паперы, з прыгожай рэпрадукцыяй іконы Жыровіцкае Божае Маці на вокладцы. Аднак фармат кнігі мог бы быць крыху меншым, штоб аблягчыла карыстаньне ёю.

**Парадак Сьвятой Імшы.** Лёндан-Вішнева, 1988. 35 стар.

Маленькая кніжачка, выданая кампютэрскім спосабам, з беларускім тэкстам Імшы ў Рымскім абрадзе, уключна з чатырмя Эўхарыстычнымі малітвамі і выбранымі прэфацыямі. Аўтарам перакладу, зацьверджанага Кангрэгацыяй Абрадаў (Congregatio pro Cultu Divino), зьяўляецца кс. Уладзіслаў Чарняўскі. Кніжка мае на мэце дапамагчы ўвядзеньню багаслужэньняў на беларускай мове ў каталіцкіх парафіях Беларусі, пакуль ня будзе выданьня поўнага Імшалу, аб чым ўжо пара падумаць.

**Малітоўная картачка** з памятным беларускім Крыжам у сьвятыні Паўночна-Амэрыканскіх пакутнікаў у Мідлянд (Канада)

На картачцы разам са здымкамі Крыжа, царквы Пакутнікаў і іхняй іконы, знаходзяцца малітвы да Ўкрыжаванага Хрыста (з Малой Падарожнай Кніжкі Ф. Скарыны), і да сьвятых Пакутнікаў, а таксама інструкцыі, як даехаць да сьвятыні. Картачка ўпрыгожаная Скарынінскімі застаўкамі.

**Напрастольнае Сьвятое Евангельле.** Выд. Першага Герарха Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы, архіепіскапа Мікалая. Таронта 1988. 316, 148 стар. Іл.

Кніга вялікага разьмеру, упрыгожаная шматлікімі рэпрадукцыямі гравюр з Скарынінскіх выданьняў і іншых беларускіх старадрукаў. Друк вялікі, лёгкі да чытаньня. Тэкст Евангельля падзельены на часткі (пэрыкопы) згодна з патрэбамі літургічнага ўжытку.

Гэта першае выданьне такога характару на беларускай мове і прыходзіцца дзівіцца вялікай працы, праробленай яго ўкладальнікам. Пра мову цяжка гаварыць, бо ўсе мы адчуваем цяжкасьці пры перакладзе рэлігійных і літургічных тэкстаў. Аднак выданьне выйграла б шмат, калі б нехта зрабіў добрую карэкту тэксту перад тым чым аддаць да друку: за многа ў ім друкарскіх памылак. Ня шкодзіла б таксама аблягчыць шуканьне адпаведных евангельскіх тэкстаў для некаторых нерухомых сьвятаў.

З гэтымі малымі заўвагамі трэба выказаць Уладыку Мікалаю шчырую падзяку за такое прыгожае і карыснае выданьне.

---

**Apostolic Visitor for Byelorussians**
**Marian House**
**Holden Avenue**
**London N12 8HY,**
**ENGLAND**